Народная Воля
http://www.nv-online.info
28 СНЕЖНЯ 2018 г.



КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

### Падлячыўся

– Зубы лячыў, адстаяўшы чаргу.
Не задарма.
Есці хачу я, але не магу –
Грошай няма.

### Хто і што стварыў

Ні для каго ўжо не сакрэт,
І не здзіўляе ява тая:
Гасподзь стварыў калісьці свет,
А ўсё астатняе – з Кітая.

### Прыйдзе сам

– Ды што вы плешчаце аблуду? –
Пачуў я ў спрэчцы мілых дам. –
Я зводзіць мужа ў вас не буду.
Ён не маленькі!
Прыйдзе сам…

### І жартам, і ўсур'ёз

Прафесару ўласцівы гумар тонкі
(А да таго ж юрлівы ён даволі):
– Старэюць і драхлеюць нашы жонкі…
Студэнткі-трэцякурсніцы – ніколі!

### Нявеста і жонка

Глядзяць на дождж твой залаты
Па-рознаму, прызнайся шчыра:
Нявеста кажа: «Шчодры ты!»
А жонка лічыць за транжыра…

### Паразумнелі

Хрыстос паказваў прыклад –
Будзь здароў!
Ён колісь
Выгнаў з храма гандляроў.
Яны паразумнелі
З той пары –
Сабе купілі храмы гандляры…

### Не радуйся

Не радуйся, падумай добра,
Калі «палова» спінінг рэдкі
Табе здарыла,
Бо, падобна,
Ёй нехта іншы дорыць кветкі…

### На карпаратыве

– Карпаратыў – дзярмо! –
І маладзіца,
Сказаўшы так,
Устала з-за стала.
– Каб толькі адшукалася спадніца,
Дык я б ужо даўно
Дамоў пайшла…

### Беспадстаўная сварка

Пачуўся ўранку рык ільвіны,
Як шэф зайшоў у кабінет:
– Вы абібокі, гультаіны!
Куды ні плюнеш – дармаед!
З-за беспадстаўнай гэтай сваркі
Настрой наш сапсаваўся так,
Што ўсе мы ўбок адклалі чаркі,
Не сталі дапіваць каньяк.

### Не разбагацеў

Разбагацець хацеў.
Намеру
Супраціўляюцца разлікі:
Плаціць патрэбна за кватэру,
І «распаўзліся» чаравікі…

### Падзякаваў за давер

Дзеду ўжо за восемдзесят год,
І забіў суседа, абармот.
Суд ужыў бязлітасную меру:
Дваццаць год упёк пенсіянеру.
І суду сказаў пенсіянер:
– Дзякуй за аказаны давер!

### Да канца жыцця

Не самы ўсё ж надзейны ў свеце
Ваш матацыкл, бадай.
Хаця
Як лётацьмеце, быццам вецер,
Паслужыць да канца жыцця…

### Светлы час

Сказаў мне дзядзька Апанас,
Мужчына з вопытам багатым:
– Дзяцінства – гэта светлы час,
Калі не ўмееш думаць матам.

### Памёр міратворац

Аднойчы сын старэйшы самы,
Якому ўжо пятнаццаць год,
Звярнуўся ў роспачы да мамы:
– Чаму цяпер між вамі лёд?
Раней былі ў вас сваркі з татам
(Сядзеў я ціхенька ў кутку),
І тата часта пляцкаў матам,
Было, што падымаў руку.
Аднак затым – малюнак дзіўны:
Сыходзілі вы ў свой пакой,
І праз якія паўгадзіны
Зусім інакшым быў настрой:
Узнёслацць у цябе на твары,
А тата – быццам малады…
І зараз пасля кожнай свары
Вы ўдвух сыходзіце туды.
Выходзіце – на тварах драма,
Ну а ў цябе – яшчэ й дакор.
Чаму так?
І сказала мама:
– Бо той, хто нас мірыў, памёр…

УЛЫБКА ХУДОЖНИКА




Рисунок Ирины ПУСТОВАЛОВОЙ.

К СВЕДЕНИЮ

# Коммуналка будет дорожать в два этапа

Как известно, власти уже определились с тем, как мы будем оплачивать жилищно-коммунальные услуги в 2019 году. Соответствующий указ Александр Лукашенко подписал еще 22 декабря.

В 2019 году коммуналка будет дорожать в два этапа. С 1 января 2019-го вырастут тарифы на газ, электричество, воду, канализацию, капитальный ремонт, санитарное содержание вспомогательных помещений жилого дома. В общей сумме это повышение составит 3,9 доллара. А после завершения отопительного сезона с 1 июня еще на 1,1 доллара подорожает отопление и горячая вода. Тарифы на техобслуживание дома, лифт и вывоз мусора останутся прежними.

В Министерстве антимонопольного регулирования и торговли заявляют, что утвержденные предельные уровни тарифов на ЖКУ для населения в 2019 году позволят выйти на уровень возмещения по всему комплексу оказываемых жилищно-коммунальных услуг в размере более 80%.

## Итак, как изменятся тарифы с 1 января 2019 года?

| Услуга | Цена сейчас | Цена с 1 января 2019 г. |
|---|---|---|
| **Кубометр газа** в домах и квартирах, где есть приборы индивидуального учета расхода газа и индивидуальные газовые отопительные приборы (до 3 тыс. куб. м): | | |
| в отопительный период с 1 января по 31 мая включительно | 0,1015 рубля | 0,1143 рубля |
| с 1 июня по 31 декабря | 0,3275рубля | 0,4114 рубля |
| **Кубометр газа** в домах и квартирах, не оборудованных индивидуальными газовыми приборами | 0,3275 рубля | 0,4114 рубля |
| **Электроэнергия** в жилых домах и квартирах, оборудованных электрическими плитами (до 250 кВт·ч) | 0,1218 рубля | 0,1484 рубля |
| **Водоснабжение** (по льготному тарифу) | 0,8053 рубля | 0,8338 рубля |
| **Водоснабжение** (100-процентный тариф) | 0,9111 рубля | 0,9375 рубля |
| **Канализация** за кубометр (по льготному тарифу) | 0,6191 рубля | 0,6383 рубля |
| **Канализация** за кубометр (100-процентный тариф) | 0,776 рубля | 0,802 рубля |
| **Вывоз мусора** за кубометр: | | |
| в домах, оборудованных работающим мусоропроводом (льготный тариф) | 8,8076 рубля | 8,9169 рубля |
| 100-процентный тариф | 9,991 рубля | 10,1203 рубля |
| в домах без мусоропровода или с нефункционирующим мусоропроводом (льготный тариф) | 7,5483 рубля | 7,3333 рубля |
| 100-процентный тариф | 8,5421 рубля | 8,7007 рубля |

З НАГОДЫ

# У хуткім часе і беларуская грамадскасць расплюшчыць вочы

Выступаючы перад расійскімі журналістамі, Аляксандр Лукашэнка сказаў, што ён не вельмі сябруе з камп'ютарам, перавагу аддае класічным сродкам масавай інфармацыі. Я таксама больш давяраю друкаваным газетам і часопісам, чым інтэрнэту, які акрамя карыснага прыносіць у наша жыццё і вялікую шкоду. Колькі так званых фейкаў укінута за апошнія месяцы ў Сеціва! Колькі бруду, фальшу выліваецца кожны дзень праз розныя паганыя сайты!

Пакуль цывілізаванае грамадства не знайшло паратунку ад войнаў несумленных інтэрнэткарыстальнікаў. Але мяне радуе тая інфармацыя, якая была агучана падчас узгаданай вышэй прэс-канферэнцыі А.Лукашэнкі. Днямі я асабіста азнаёміўся з вынікамі даследавання Оксфардскага ўніверсітэта: у Злучаных Штатах Амерыкі 7 з 10 грамадзян не давяраюць сацыяльным сеткам. Затое амаль 60 працэнтаў насельніцтва давяраюць традыцыйным сродкам масавай інфармацыі.

Ці ж можна, скажам, параўноўваць сур'ёзную газету «Народная Воля» з нейкім сайтам, ад фейкавых паведамленняў якога патыхае крымінальшчынай? Хочацца верыць, што ў хуткім часе і беларуская грамадскасць аддасць перавагу традыцыйнай журналістыцы, а інтэрнэт ачысціцца ад бруду ў выглядзе абраз, выкарыстання непрыстойнай лексікі, абхайвання апанентаў, распаўсюджвання фейкавых навін.

**Сяргей КІРЫЛЬЧЫК, служачы.**

ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

# Нязгаснай Вам мужнасці і моцнага здароўя!

Мае народавольцы! Шчыры дзякуй Вам за газету «Народная Воля»! Галовы ва ўсіх у Вас разумныя, светлыя і смелыя – газета выходзіць на самым высокім узроўні.

Так трымаць!!!

Напярэдадні Новага года ўсім супрацоўнікам жадаю вялікіх творчых поспехаў, а галоўнае – нязгаснай мужнасці і моцнага здароўя! Два апошнія паняцці вельмі цесна ўзаемазвязаны.

Малюся за Вас. З павагай –

**Ларыса Іванаўна КАНАПЛЁВА.**

*Мінск.*

### Ад рэдакцыі

Будзем шчырымі: прыемна чытаць такія цёплыя радкі. Тым больш што яны ад калегі – Ларыса Іванаўна дзясяткі гадоў працавала ў друку.

Прыміце, даражэнькая, і нашы самыя найлепшыя пажаданні ў сувязі з надыходзячымі Новым годам і Калядамі! Зычым Вам бадзёрасці, моцы і доўгіх-доўгіх гадоў жыцця!

ГЛАС НАРОДА

# Должен ли я платить?

Здравствуйте!

Я прочитал заметку в №90 вашей газеты под заголовком «Кто мне ответит по существу?». У меня ситуация похлеще, чем у автора этой публикации.

Живу я в деревне один в частном доме, сын Виктор живет и работает в Минске. Скажу честно, веду здоровый образ жизни. В стеклянной и пластиковой таре редко что покупаю. Бытовых отходов у меня собирается мало. У нас в Осиповичах насчитывается четыре приемных пункта, все, что можно, я сдаю и получаю деньги. Собственно говоря, никаких отходов, загрязняющих природную среду, у меня не остается. А потому и договор с ЖКХ на их вывоз я не заключал. Но мне и сыну все равно ежемесячно приносят извещения на оплату якобы услуги по вывозу мусора. Сумма время от времени увеличивается, и растет пеня.

Дошло до того, что от судебного исполнителя пришло письмо, два листа на меня, два – на сына, хотя владельцем дома являюсь я, а не сын. Получается, хоть я и не заключал договор, не расписывался в нем, руководство ЖКХ хочет через суд истребовать с меня деньги за услуги, которые никто мне не оказывал.

Прошу редакцию помочь в справедливом решении вопроса между мной, судом и ЖКХ. Мне 56 лет, работу найти не могу.

**Николай Николаевич ДРОВЯННИКОВ, житель г. Осиповичи.**

### От редакции

Николай Николаевич Дровянников – не первый, кто ставит вопрос ребром: почему нужно платить за неоказанные услуги? Вспоминается и недавно опубликованное в «Народной Воле» письмо жителя г.Пинска Петра Хлуса, который также не заключил договор с ЖКХ на вывоз мусора, которого у него практически нет, а с него требуют деньги.

Конечно, по каждому конкретному случаю скажет свое слово суд. Но не целесообразнее ли Министерству жилищно-коммунального хозяйства обратить внимание на эту проблему? Может, стоит пересмотреть некоторые документы и откорректировать их таким образом, чтобы исключить всякие конфликты с населением?

ТОЧКА ЗРЕНИЯ

# Голая наука

Как ни печально сознавать, но вот уже примерно двадцать лет наука в Беларуси практически не влияет на объем ВВП и не является производительной силой. Это одна из причин того, что продукция, экспортируемая из страны, имеет низкую прибавочную стоимость, а доля экспорта высокотехнологичной продукции в общем объеме экспорта промышленных товаров Беларуси не превышает 5 процентов. И, подчеркну, эти мизерные проценты обеспечивают не столько ученые страны, сколько инженерно-конструкторские кадры предприятий и закупленные зарубежные технологии.

Известно, что управление (координация) наукой включает два важных этапа: планирование научных исследований и их финансирование. Сегодня первичным действием является «дележ» бюджетных средств между Национальной академией наук Беларуси и остальными соисполнителями (отраслевыми министерствами) государственных программ научных исследований (ГПНИ). В научной сфере страны с начала 2000-х де-факто используется система базового финансирования, а не программно-целевой подход. Эту систему распределения средств на научные исследования взяли на вооружение НАН Беларуси, Минобразования, Минздрав и другие госорганы, имеющие в своем подчинении научные подразделения.

Такая система распределения средств могла бы иметь место, если бы осуществлялась на основе установленных единых показателей оценки деятельности научных организаций по итогам прошедшего года. В 1990-х годах в Минобразования была внедрена автоматизированная система распределения средств на науку. Как сработал вуз по науке за отчетный период – такое финансирование и получил на планируемый год. Эту систему распределения средств на науку предлагалось распространить на всю научную сферу, но Академия наук категорически возразила против такого беспристрастного подхода. Тогда расчеты показали, что Академии наук от общего объема финансирования на научные исследования полагалось не более 28 процентов, а получала она в пределах 36 процентов.

Сегодня НАН Беларуси является главной научной организацией страны, а кто главный, тому и карты в руки. Поэтому Академия наук на 2018 год получила более 50 процентов от общего объема финансирования на научные исследования. Получили, разделили по НИИ и вузам, а там – по заданиям программ.

Что положено в основу такой деятельности, можно только догадываться, но это почему-то называют программно-целевым методом организации и финансирования НИОКР. Недавно мне в руки попали материалы о распределении финансовых средств на выполнение заданий ГПНИ в системе Минобразования. Вначале своим глазам не поверил, подумав, что такого не может быть. Неоднократно прочитал все материалы, позвонил в ряд региональных вузов и пришел к мысли, что с абсурдностью ситуации, созданной чиновниками от науки, необходимо ознакомить всех и предпринять попытку поднять дискуссию по вопросу совершенствования деятельности научной сферы и управления ею.

В качестве примера приведу ситуацию, которая сложилась с реализацией такой остроактуальной программы, как «Биотехнология», а точнее – с выполнением подпрограммы «Молекулярные и клеточные биотехнологии». Из 19 заданий по девяти выделено менее 10 тысяч рублей на год. По шести заданиям – менее 5 тысяч рублей. По заданию, направленному на разработку поглотителей электромагнитных волн для защиты биообъектов от электромагнитных полей и излучения, на 2018 г. «околонаучными» чиновниками Минобразования установлена сумма расходов в пределах 3,83 тысячи рублей. Возникает вопрос: а занимались ли они когда-нибудь сами серьезными исследованиями, или их научные изыскания свелись к компиляционному процессу, не требующему затрат на материалы, приборы и т.д.?

Неэтично считать деньги в чужом кармане. Но, осознав положение, в котором находятся руководители и исполнители заданий с таким финансированием (а их десятки, и чаще – в вузах), решил провести упрощенные расчеты и сравнения, которые необходимо вынести из их «избы».

Из указанной суммы около 40 процентов общего объема финансирования, выделенного на задание, изымут на содержание работников аппарата управления научно-исследовательского сектора и другие непроизводственные расходы в университете. Непосредственно исполнителям задания останется на заработную плату, приобретение необходимых материалов и приборов, командировки и т.д. 2,3 тысячи рублей на весь год. В пересчете на один месяц на все про все получается 191 рубль, то есть в 1,2 раза меньше прожиточного минимума трудоспособного населения и в 10 раз меньше, чем месячная зарплата тех, кто распределяет деньги и определил эту сумму на выполнение задания. Не абсурд ли это? И самое парадоксальное, что в системе НАН Беларуси – координаторе ГПНИ на всех уровнях утвердили этот беспредел, не задумываясь над ответом на вопросы, что можно создать за такие деньги, пойдет ли в науку молодежь при таком финансировании. Вероятнее всего, что чиновников от науки это мало заботит.

Главное, что можно рапортовать об огромном количестве программ, заданий, выполняемых в стране и «координируемых» Академией наук. На этом поприще трудятся сотни академиков и членов-корреспондентов. Созданы какие-то группы научного сопровождения программ. А что в итоге получается от всей этой координационной и организационной деятельности?

Все уже смирились с этой абсурдной ситуацией и создают видимость научной деятельности, пополняя бумажными отчетами научный архив страны, именуемый государственным реестром научных и опытно-конструкторских работ. На сегодня в нем около 100 тысяч отчетов практически невостребованных реальным сектором экономики. Ежегодный прирост их составляет в среднем 3 тысячи единиц.

Когда для оршанских предприятий потребовалось предоставить разработки, соответствующие 4–6-му укладам для организации их серийного производства, то оказалось, что все эти «координаторы и сопроводители» не нашли таких разработок в своих научных «сусеках». Не оказалось разработок и более низких укладов. На просьбу Государственного комитета по науке и технологиям Республики Беларусь предоставить разработку от Минобразования ничего не было предложено, а НАН Беларуси внесла предложения в виде проектов на финансирование с дальнейшим планируемым внедрением на предприятиях города Орши, а не готовый к промышленной реализации объект. Получилось по Х.К.Андерсену – вузовская и академическая наука оказалась голой.

Сегодня реальному сектору экономики не нужны пожелтевшие фолианты, именуемые научными отчетами НАН Беларуси, Минобразования и других научных организаций отраслевых министерств. Для инновационной сферы требуются законченные разработки в виде конструкторской документации, опытных и промышленных образцов продукции 4–6-го укладов. Только в этом случае Беларусь имеет шанс занять не 86-е место во всемирном рейтинге инноваций (июль 2018 г.), а устремиться к первой двадцатке развитых стран.

Без изменения структуры управления научной сферой, действующего законодательства и при наличии фактически двух государственных органов (Государственного комитета по науке и технологиям Республики Беларусь и НАН Беларуси), регулирующих научно-инновационную деятельность проблематично создать инновационную экономику. Политику, стратегию и тактику в этой деятельности должен осуществлять единый государственный орган, как это делается во многих развитых странах.

Совершенствовать вопросы планирования научных исследований призвана государственная экспертиза научных проектов, но сегодня она не в состоянии изменить ситуацию. Мнение 35–40 специалистов-экспертов по проекту и их заключение ничтожно в сравнении с полномочиями одного-двух чиновников от науки, которые принимают окончательное решение по вопросу включения проекта в ГПНИ и его финансирования. И это ненормальное положение околонаучные чиновники протащили на законодательном уровне, сделав государственную экспертизу второстепенным явлением.

Первичным должен стать ведомственный конкурс, который отсеет сотни ненужных стране заданий ГПНИ и отдельных проектов, а государственная экспертиза вынесет окончательное решение по прошедшим ведомственный конкурс заданиям. По большому счету не должно быть ГПНИ, ГНТП и других различных программ. Необходимы единые приоритеты и единые программы со сквозным планированием полного цикла работ. Эту тему требуется обсудить на государственном уровне и принять необходимое решение, позволяющее предотвратить создание абсурдных ситуаций.

Стране нужны не только долгосрочные стратегии и прогнозы до 2040 года, но и много инновационного продукта, создаваемого учеными совместно с промышленниками и аграриями. А для этого нужно многое изменить и поправить в научной сфере. Наука в Беларуси должна стать производительной силой. Только в этом случае можно построить инновационную экономику и поднять благосостояние народа.

**Владимир КОРОЛЮК, кандидат технических наук.**

